# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

Цана нумэру 50 кап.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі.
1 радок за тэкстам 2 рублі.
З безработных за ўсю абвестку 2 рублі.

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — **Востра-Брамская, № 9** — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

**Год I.** **Вільня, Панядзелак 19 мая 1919 г.** **№ 10.**


*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць каліуца часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,— ніхай ен будзе ласкау не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*



## Да беларускага народу!

Учора старая Горадня пабачыла сьцягі войск Польскай Дзяржавы, якія занялі гэтае адвечнае беларускае места.

Стрэньце, Беларусы, новых госьцяў свайго краю з поўным спакоем і пэунасьцю. Дзяржава Польская ваюе з Маскоўшчынай, якая ніколі ня была прыязнай да нас, больш таго, якая дзікім і цёмным гвалтам душыла і душыць дагэтуль нашае нацыянальнае жыцьцё, трымае ў вастрогах лепшых сыноў зямлі нашай, спыняе ўсялякую палітычную і культурную работу.

Войскі польскія ідуць для барацьбы туды на Усход.

Але разам з тым мы ў гэты нязвычайны час, калі важыцца доля народаў, павінны яшчэ мацней і галасьней сказаць на ўвесь сьвет, што жыве незалежная Беларусь; няхай на абшарах яе нямецкую акупацыю зьмяніла польская, адно панаваньне ўступае месца другому, але ў нашых сэрцах дванадцацёхміліённага народу жыве гетая ідэя і ніхто нязможа яе задушыць.

Нас, гаспадароў сваей зямлі, не зрабіць пад'уладнымі! Ніхто ня зможа адняць нашае права на незалежнае істнаваньне.

У імя гэтай вялікай праўды цясьней лучыцеся з намі — Вашымі прадстаўнікамі. Толькі ў такой еднасьці мы зможам адстаяць сваю волю, сваю Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку.

**Презыдыум Цэнтральнай Беларускай Рады Гродзеншчыны.**

28 красавіка 1919 году.

## Сонейка сярод хмар.

Ангельскія работнікі у сваім маніхвэсьці зьвертаюць увагу на тое, што трактак аб міру не адпаведае справядлівасьці.

Паміж іншым, яны кажуць, што пры аблічэньню ваенных страт трэба узяць пад увагу і Нямеччыну.

Што справа Альзаса і Лётарынгіі павінна быць разьвязана плебісцытам.

Гэтак сьвядомыя нацыянальна і клясава ангельскія работнікі дужа кажуць на ўвесь сьвет слова праўды.

Тыя работнікі, што мусілі колькі гадоў разьліваць сваю кроў, бароначы права і справядлівасьць ад германскага імпэрыалізма.

Быццым яснае сонейка бліснула сярод чорных хмар, што укрылі усё неба.

Цяжка жыць на Беларусі, дзе сьвядомага пралетарыята блізка што саўсім няма, дзе селянская грамада цёмна і нядбайна, дзе паны маюць вялікую сілу, дзе жыдоўскую бедната б'юць за жыдоўскіх сьпекулянтаў і камісараў, дзе дрэнныя пастыры, ва імя веры, марочуць авечак і робяць іх кручанымі на свой капыл, дзе шовінізм вярхоў атручае самыя нізы, дзе прасьвету Божага не відаць, —цяжка жыць на Беларусі!

Цяжка ад безнадзейнасьці, што гэтаму канца не відаць, што сьвядомасьць нацыянальная і клясавая, якая зьніштожыць нацыянальную і клясавую няроўнасьць, што яна, можа, прыйдзе да нас ня скора, ня скора...

І тым вялікшая уцеха нам—голас ангельскіх работнікаў.

Паміжнародная солідарнасьць працоўнага люду жывець!

І яна адна, як віхор, зьмяцець нацыянальную і клясавую няроўнасьць, уціскі, звадкі і сваркі.

Каб яна барджэй запанавала, трэба усьведамляцца.

Даволі ужо быць матэр'ялам для шовіністаў і капіталістаў. **N.**

## ДЭКЛЯРАЦЫЯ ВІЛЕНСКАЕ РАДЫ.

Ніжэй мы месьцім дэклярацыю Віленскай Беларускай рады, пададзеную сьпецыяльнай дэлегацыяй Глаўнакамандуючаму польскіх войск грам. Пілсудзкаму у той час, калі ён быў у Вільні.

Дэклярацыя гэта спозьнілася паказацца ў друку з прычын палітычнага свойства.

Што можна адзначыць ў дэклярацыі?

Галоўная і сутнейшая думка яе—гэта трэбаваньне *прызнаньня непадзельнасьці тэрыторыі Беларусі і самастойнасьці беларускага народа,* перабыўшага, асабліва ў апошнія годы, столькі гора і сьцежкаю мучэньняў дайшоўшага да цьвёрдай сьвядомасьці аб самастойнасьці.

Беларускі народ, згуртаваны уакол сваіх нацыянальных арганізацыяў - рад, мае ў іх спадзеўны падмурак пад сваю лепшую будучыну.

Віленская рада паказала добры прыклад, як могуць гаварыць беларусы з тымі, хто прыходзіць у наш край з сваімі заданьнямі.

Хто б ня быў гэты, што „мае сваю арганізованую вайсковую сілу“, ён будзе ворагам беларусаў, калі прыходзіць у наш край „уціскаць Беларусь“ і, не паможа беларусам аб'еднаць усю Беларусь і адбудаваць яе у незалежную дзяржаву“.

Пры царскім рэжыму, пры нямецкай акупацыі і пры бальшавіцкай літоўска-беларускай савецкай рэспубліцэ над Беларусьсю вісела грозная небясьпека духоўнае сьмерці народа-мучэльніка.

Ні царскі жандарм, ні нямецкі юнкер, ні бальшавіцкі камісар ня думалі аб беларусах.

Усё рабілася або дзеля Масквы, або дзеля Берліна, або яшчэ дзеля кагосьці.

Бальшавіцкая ўлада, апрануўшая у нашым краю мясцовы костюм, паказала найгоршы абразец профанацыі ідэі самаазначэньня беларускага народа.

Мы ня ведаем яшчэ, што дасьць нам польская гаспадарская ўлада: ці яна пристанець на погляд Віленскае Беларускае рады аб канечнай патрэбе жыцьця незалежнага беларускага гаспадарства ці, быць можа, яна, наўпрэкі рэляцыям, выпушчаным па-

толькі у раю. Мушу толькі адзначыць, што пад словам „жыды“ мы разумелі з бацькам, ня нацыю, а кляс дробнай жыдоўскай буржуазіі, што жыла у мястэчку, і з гэтага паняцьця выключалі шаўца Іцку і каваля Моўшу, прыяцеляў бацькі.

Калі пачаўся у нашым кутку бальшавізм, нам, аднак, было шкода яшчэ і Мэндаля, што вазіў яйкі у места, а цяпер ня мог ужо, і Іоселя, што жыў з крамкі (у нашых вачох быў „гультаём“), а цяпер крамку камісары апечаталі, і Іосель галадаваў.

І мы вельмі дзівіліся, чаму бальшавікі, пачынаючы гэткую добрую справу, як скасаваньне няспорнай і дзеля таго ашуканскай працы мястэчковых крамнікаў, першым доўгам учыняюць гэтакі гвалт, як галадоўля Іоселя праз тое, што німа працы.

Бальшавікоў у нас ужо німа, аднак спакуса, што гандаль можна зрабіць толькі карыснаю і спорнаю дзеля усіх працаю, засталася у нас вялікая.

Пакуль што мы не забегаем наперад і не мяркуем, ці трэба будзе законам зрабіць прымусовую кооперацыю, а „жыдоў“ (ня нацыя!) пасадзіць, каб выраблялі у селянскую хату стульля, сталы і шафы, бо лаўкі, зэдлікі і суднікі пара ужо выкідаць адтуль.

Мне толькі цікава, як глядзяць на гэта самі нашы мястэчковыя крамнікі і ці будуць сьмелы праўду прызнаць за праўду?

Раней, праўда, палітычная няволя рабіла гэткім, а ня йнакшым, нашае жыцьцё. І хоць мы не любілі мястэчковых „жыдоў“-паноў ці кандыдатаў на выезд у гарадзкія паны, аднак болей-меней даравалі ім, ведаючы добра, што глаўная прычына хаваецца ня ў іхнай волі.

Цяпер гэтая прычына скінута.

Дык неяк трэба скінуць і няспорную працу.

А каму гэта можа забалець, ніхай загадзя памяркуе, як зрабіць так, каб не балела.

Уважаем, што справа досыць пільная і марудзіць з ёю німа чаго.

*Селянін с-пад Вілсйкі.*

# Беларускія газэты.

1-га мая у Горадні выйшаў першы нумэр новай беларускай газэты „Zorka“, якая лічыць сваей глаўнай мэтай “будзеньне нацыянальнай сьвядомасьці беларускага народа“.

Аб сьвядомасьці клясавай рэдакцыя „Zorki“ маўчыць, уважаючы хіба, што беларуская селянская грамада адродзіцца і бяз гэтай прыкрай панам драбніцы.

Калі так, праца „Zorki“ ня будзе надта карыснай і ня будзе спорнай, бо беларускае адраджэньне, як мы бачым з колька-гадовай практыкі, было-б шырэйшым, каб спачатку здабыло характар нацыянальна—клясавы.

У тым жа нумэру, аднак карэспандэнт (каталік) з м. Воўпы (Горадз. пав.) паведамляе, што у іх *паны—шляхта* „гавораць што з праваслаўнымі трэба змагацца, бо яны маскалі і ніхай сабе едуць у Расею“; што у мястэчку „сабралася кліка у колькі чалавек сьпекулянтаў і высасываюць апошнія сокі з сваіх братоў *бедных жыдоў* ды і вясковых жыхароў“.

* * *

У апошнім нумэру горадзенскай газэты „Беларусь“ Юры Верашчака піша аб нашай інтэлігенцыі гэтак:

„А наша інтэлігенцыя — што яна такое? Ці дарасла яна да разуменьня усей павагі гістарычнага мамэнту, да выпаўненьня пастаўленых перад ёю задач? Я думаю, што акром невялікай горсткі, рэшта ня толькі, не дарасла да таго, каб кіраваць будучынай народу, але навет і да таго, каб самі сябе абараніць у значэньні падтрыманьня перад чужынцамі сваей годнасьці і павагі“.

„Скора шмат хто с паміж „нашай“ патэнтованай інтэлігенцыі, не пасьпеўшы навучыцца пабеларуску пісаць і чытаць, пачне вучыцца папольску, а сярэдняя інтэлігенцыя за кавалак хлеба панясе у чужацкія яткі сваю беларускую душу і, поплеч стануўшы, будзе капаць і зьбіваць труну для нас, як нацыі“.

# Ліст у рэдакцыю.

Паважаны Пане Рэдактару!

Вельмі прашу надрукаваць у Вашай газэце гэткае.

Як і тычячы іншых людзей, загнаных голадам, працаваў і я $1^1/_2$ месяца ў ваенным юрыдычна-крымінальным аддзеле, што ня меў ніякага дзела з цывільным насяленьнем. Бязмала ўсе тыя, што служылі ў бальшавікоў, навет чырвонаармейцы і міліцыянеры, каторыя памагалі ўціскаць грамадзянства, цяпер служаць у польскіх урадах, і ня былі арыштаваны. Што датыча мяне, дык як толькі Вільню заняло польскае войска, зьвілася да мяне міліцыя, зьбіла, зрабавала, арыштавала і прывяла да ваеннага камэнданта. П. Камэнндант, разгледзіўшы дакумэнты, пасьля выпытаў мяне звольніў.

Але прайшло тры дні і ўзноў зьявілася міліцыя, трэсла (найбалей цікавячыся грашыма) і арыштавала мяне. Цераз тры дні камісар 6 ўчастку вярнуў мне ўзноў дакумэнты і аслабадзіў мяне.

Аднак пасьля трох дзён зьявіўся ўночы афіцэр з трыма салдатамі, так сама каб арыштаваць мяне, але даведаўшыся, што я ўжо быў двойчы арыштаваны і навет зрабаваным, разгледзіўшы паперы, пакінуў мяне свабодным.

Сягоньняшняй ночы зьявіліся жандармы так сама трэсьці і арыштаваць, але дзеля мае хваробы не арыштавалі, а зрабілі хатні арышт. І дзіўна, што ўсе гэтыя рэвізіі і арышты па аднэй і тэй самай справе, што я працаваў у бальшавікоў.

Хацеўбы пры помачы Вашае газэты папытацца, калі будзе канец гэтаму перасьледаваньню? Гэта-ж як факт устаноўлена, што мая праца ў бальшавікоў ня толькі ня зробіла крыўды цывільнаму насяленьню, але наадварот—бараніла народ ад бальшавіцкіх рабункаў, што падцьверджаюць справы, каторыя асталіся, а таксама пакрыўджэныя бальшавікамі абыватэлі, як да прыкладу п. Лэнская, Гонвольд, Ростакоўскі і інш.

16/V 1919 г. *С. Волэйшо.*

конаньне звычайных грамадзян цьвяроза судзячых а тым, што добра і што блага будзе станавіць лёсы народаў.

3.

Дэмократыя наканец—вось узышла на удобраную крывей ніву паміжнароднага жыцьця. Як же ўсклікнуць тут: „Памажы, Божа! у шчасьлівую гадзіну“!

Але — зложанае і трывожнае палітычнае жыцьцё наагул, а міжнародна-палітычнае — ў асобнасьці кожны дзень прыносіць новыя заблутні ў калейдоскопе політычных, экономічных, нацыянальных, дайжа рэлігійна-палітычных (Францыя, як традыцыйная апекунка ўсіх каталікоў на Усходзе) дасяганьняў вялікіх і малых гаспадарстваў. Скажам больш. Як раз трыумф дэмократыі зродзіць новы неўспакой.

Як і ўсё люцкое дэмократыя ня толькі нявольніца сваіх недастаткаў, яна-ж ў палоне сваей вартасьці. Гэтак, з нязнанай папярэднему дыплёматычнаму цэху чуткасьцю аднясецца яна да нацыянальных патрэб пасынкаў Эўропы—лічных малых народаў. А гэта ці-ж не крыніца новых гострых проблем!

І вось, пры усей шчырай праўдзівасьці ў ацэнцы дамаганьняў свае бацькаўшчыны, пры шчырым адданьні ідэі права ў міжнародных справах, не абойдзецца без непагаджальных расходзін у прававых пераконаньнях. Якую пропасьць вырыла вайна паміж лепшымі розумамі англа-французскага і германскага сьвету!

Аднолька-ж, толькі плоскі мяшчанскі скептыцызм пачне шукаць тутака сьведамай стороннасьці і крывадушнасьці. Не, ў нацыянальным абсягу больш як гдзе апраўдваецца псыхолёгічная мудрасьць нямецкай прыказкі: „Der Wunsch ist der Vater des Gedanken“ (жаданьне родзіць думку)—суд і ацэнка людзей залежыць ад даўленьня іх пажаданьняў і гарачкі.

Ад міжнародна-прававой дысгармоніі ня збавіць чалавецтва і дэмократыя.

Кажучы словамі найбольш аўторытэтнага з сучасных філёзофаў права, праф. Л. Петражыцкага, ў нязгоднасьці прававых пераконаньняў, у прававых спорах крыецца небяспечны ўзрыўны матэрыял, што нясець у сабе руіну і сьмерць. Бо праўная псыхіка мае тэндэнцыю прымусова зьістнаваць запярэчанае права, сілком адабраць тое, што данаму суб'екту (ў нашым прыпадку гаспадарству), водлуг яго пераконаньня, належыць, ня гледзячы на жаданьне або не абавязанай стараны. Самае вялікае і трагічнае пацьвярджэньне гэтае праўды—фэномэн вайны. Хай шчэзнуць з старонак гісторыі войны грабежныя, дынастычныя, экономічна-карысныя. Застанецца такая-ж страшная мара „праўнай вайны“, вайны за пакрыўджаныя правы (праўдзівыя або надуманыя).

**Андрэй Барскі.**

*(Далей будзе).*

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

**Старшыня Гродзенскай Рады у Вільні.**

У Вільню прыехаў старшыня Цэнтральнай Беларускай Рады Гродзеншчыны грамадзянін Павал Аляксюк.

Прыбыў ён з Варшавы з мэтай нарадзіцца з прадстаўнічым органам беларускім — Віленскай Радай аб адналькоавай лёкальнай беларускай палітыцэ.

**Беларуская дэлегацыя у Варшаве.**

Дэлегацыя Цэнтральнай Беларускай Рады Гродзеншчыны, зложаная з старшыні грам. Аляксюка і сябраў гр. гр. Зінковіча і Ф. Вернікоўскага, даведалася камісара „Усходніх зямель“ п. Асмалоўскага, а таксама відных прадстаўнікаў ураду і палітычных кругоў.

Дэлегацыя, выражаючая волю Рады, стаяла пры перагаворах на грунце незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дэлегацыя закранула шмат мясцовых справаў, зьвязаных з польскай акупацыяй.

Астатэчнае выясьненьне некаторых пытаньняў наступіць пры прыездзе п. Асмалоўскага у Вільню і Горадню.

Прадстаўнікі Гродзеншчыны выразілі цьвёрдую пэўнясьць аб магчымасьці стварэньня справядліва-добрасуседзкіх адносін між польскім і беларускім народамі.

**Беларуская дэлегацыя у місыі Entente.**

Дэлегацыя Цэнтральнай Беларускай Рады Гродзеншчыны адведзіла місыю Entente у Варшаві і зложыла мэморыал, закрануўшы палажэньне Гродзеншчыны і дзержаўнай беларускай справы.

**Беларусы у Варшаве.**

„Gazeta Warszawska“ паведамляе, што 14 мая ў Варшаве быў сход, на які былі склікаваны ўсе беларусы, якія тамака жывуць.

**Бальшавіцкі зьезд.**

На 25 мая назначан у Менску зьезд бальшавіцкіх саветаў Літвы і Беларусі.

**Да ведама безработных.**

Каля вільня ёсьць інжэнерныя работы. Плоцяць 5 марак у дзень і харчы готовыя. Прыймаюць у гасьцініцы „Італія“, вышні паверх.

**Грашавыя справы.**

З Варшавы мае прыехаць наўмысная камісія, каб наснудзіць краёвы і мясцовы аппарат грашавых спраў.

Затым ужо будуць адчынены казначейскія, акцызныя і інш. установы.

**Гміны.**

Як нам падаюць да ведама, валасьцям будзе нададзен гмінны характар.

Такім чынам, замест валасных старшынаў будзе што-сьці падобнае да гмінных войтаў.

**Забарона на дровы.**

Польская ўлада забараніла вывазіць дровы за дэмаркацыйную лінію.

**Добры жаўнер.**

12-га мая па Антокальскай вуліцы, каля турмы, польскі жаўнер — малодшы пад'ахвіцэр 1-га Сувалкскага палка—рупліва аджыўляў нейкага самлеўшага на вуліцы з голаду гаротніка. Бачучы гэта, пачула сорам праходжая публіка і так сама пачала ратаваць самлелага: хто прынёс вады, хто белага хлеба. Жаўнер жа надаіў шклянку млека у каровы, што гналі той час з пашы, і з прыемна-жаласным клопатам карміў зьнядужэўшага. Ен жа першы за ўсіх усунуў у кішаню гаротніку пяціпрублёўку. Потым гукнуў праезджага звозчыка і адыслаў хворага з адным з падыйшоўшых другіх жаўнераў дамоў на Вакзальную вуліцу. Нікто з прахожых паноў (былі і ахфіцэры) раней за жаўнера не браўся ратаваць і не зьвяртаў увагі. Не выпадала спытаць у жаўнера яго прозьвішча. Але слава і хвала яму!

*Праходжы.*

# У ВІЛЬНІ.

**Рэвізыя.**

Пазаўчора ў кватэры Тымчасовага Літоўскага Камітэту была рэвізыя. Сяброў камітэту і асоб, якія ў гэты мамэнт маючы да камітэту патрэбу, былі тамака, затрымалі, але, праглядзіўшы пачпарты, пусьцілі. Гэта ўжо трэцьцяя рэвізія у Камітэце ад часу, як вышлі з Вільні бальшавікі.

**Да прыезду п. Асмалоускага.**

Камісар „Усходніх зямель“ п. Асмалоўскі забавіўся дзён на 6 у дарозі, дзеля таго што заезджае у Беласток, Валкавыск і Ліду для арганізацыі правінцыі.

**Загады улады.**

Паўнамочны кімісар пры дзействуючай Арміі апавешчае, што усе, якія ёсьць у Вільні ды на абшары Літоўска-Беларускага фронту, прамысловыя ўстановы (фабрыкі, майстэрні і т. п.) павінны быць заяўлены ў працягу месяца ад дня гэтага апавешчэньня праз іхніх гаспадароў або адказных кіраўнікоў у Аддзеле фінансаў, гандлю і прамыслу Вайсковага Ураду Усходніх зямель (Сьв. Юраўская № 8), падаўшы да ведама прозвішча гаспадара фірмы, адрэс і спэцыяльнасьць установы ды лік работнікаў, якія тамака працуюць, і колькасьць прадукцыі за апошні год.

У заяве трэба напісаць, ці установа цяпер працуе, а калі не, дык ад якога часу і дзеля чаго не працуе.

Гэтакі самы загад датычыцца і заяўкі усіх крэдытовых установ (акцыйныя банкі, таварыствы узаемнага крэдыту, пазыковыя кассы, банкірскія канторы і г. п.) Заяўляючы, трэба падаць да ведама фірму або прозвішча гаспадара дый адрэс, і вялічыню капіталаў: аснаўнога, запаснога і рэзэрўнага, а так сама і абароты за апошні год.

У заяве трэба напісаць, ці установа цяпер працуе, а калі не, дык ад якога часу і дзеля чаго не працуе.

**У справе рэвізыяў.**

Паявіўся загад улады, у каторым гаворыцца: „У апошнія часы здаралася, што нейкія ліхадзеі, карыстаючыся польскай вайсковай вопраткай, рабілі рэвізыі ў прыватных кватэрах і пры гэтым былі грабежствы ды рабункі.

Падаю да агульнага ведама, што рабіць рэвізыю мае права толькі палёвая жандармэрыя і паліцыя. Рэвізыю могуць рабіць толькі тады, як маюць на гэта пазваленьне на паперы, у якой напісана: хто робіць рэвізыю, у каго і хто даў на гэта права.

Гэтакія паперкі павінны быць дзьве. Адну з іх будуць пакідаць тэй асобе, у каторай будзе зроблена рэвізыя“.

Падпісаў паўнамочны Камісар Літоўска-Беларус. фронту п. Ямонт.

**Ісьцінна-рускі клюб.**

Незабавам у Вільні адчыняецца клюб ісьцінна-рускіх палітыкаў.

**Камерчаскі банк.**

Камерчаскі банк (Юраўскі прасп) паслаў у Варшаву людзей меняць грошы на маркі па варшаўскаму курсу (1 рубель = 1 марка 40 фэнігаў).

**Падарожнікі.**

Нас паведамляюць, што 15-га мая блізка 200 чалавек - менчанаў, выгаладаўшыся у Вільні, пайшлі у Менск пехатою не дачакаўшыся пропуска.

**Барацьба з патайнымі бравaркамі.**

На апошнім пасядзеньні Магістрату пастаноўлена надрукаваць загад, паводле каторага тых, што будуць выраблясь самагонку, пакараюць штрафам да 3000 рублёў або турмой да 3 месяцаў. Вінаватымі будуць лічыцца ня толькі самыя самагонщчыкі, а і гаспадары дамоў і кватэр, у якіх знойдуць бравaрок.

## Харчы.

**Мука.**

Шэсьць хунтаў мукі за май месяц пачынаюць даваць сяньні, 19-га мая.

**Шмалец і алей.**

Па хунту шмальца даюць ад суботы 17-га мая; жыдоўскаму насяленьню будуць даваць алей.

**Мармеляд.**

42 бочкі мармеляду, кінутых бальшавікамі ў домі Тышкевіча, папсуваліся; гэты мармеляд раздаваць ня будуць Харчавыя крамы мармеляд для продажы дасталі, будуць прадаваць па 3 р. за хунт і ня больш за 5 хунтаў на чалавека.

**Цана на хлеб.**

Хлеб прадаецца у крамах па 6 рублёў за хунт.

**Беларуская кухня.**

Беларуская кухня (Юраўскі, 22) мяркуе даваць у бліжэйшым часе недарагія абеды на дзьве стравы.

**Новая кухня.**

Адчынілася кухня у Сьвята-Духавым манастыру. Даюць заціркy па 50 к. за порцыю, а для ахвотнікаў і катлеты па 1 рублю за штуку.

Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі

Друкарня „Прамень“, Ігнатаўскі, 5.